# СВАБОДА

20 — 26 сьнежня 1994 г.

№48

Кошт 100 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец «Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 50 000



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск, вул.Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41


## Лукашэнка рэагуе на Чачню

**Учора на сэсіі Вярхоўнага Савету лідар Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк прапанаваў абмеркаваць сытуацыю ў Чачні, дзе «расейскія імпэрскія сілы распачынаюць новы Афганістан».**

На думку З.Пазьняка, Вярхоўны Савет Беларусі павінен прыняць заяву і выказацца ў падтрымку чачэнскага народу.

Гэтая прапанова лідара Апазыцыі выклікала «істэрычную» рэакцыю прэзыдэнта Лукашэнкі, які прысутнічаў на сэсіі і заявіў літаральна наступнае: «Чаго вы лезіця не ў сваі вапросы?» Дэпутаты Шушкевіч, Заблоцкі і некаторыя іншыя расцанілі гэтае выказваньне як абразу Вярхоўнага Савету. Аднак прабачэньняў ад Лукашэнкі нехто не пачуў. Не была ўключаная ў парадак дня і прапанова Пазьняка.

М.Г.

## Нашу мяжу зноў падкапалі

**Беларусь па-ранейшаму застаецца прахадным дваром, а нашыя памежнікі дэманструюць бездапаможнасьць.**

Учора (у ноч на панядзелак) беларуска-польскую мяжу паблізу Горадні нелегальна перайшлі 36 афра-азіятаў. Нашыя памежнікі заўважылі гэта і паднялі трывогу толькі тады, калі нелегалы ўжо знаходзіліся на тэрыторыі Польшчы. Мяжу яны пераадолелі «традыцыйным» шляхам, зрабіўшы падкоп пад агароджаю. Пераследуючы парушальнікаў, нашыя памежнікі зь невядомай прычыны распачалі страляніну на польскай тэрыторыі (!). У выніку — адзін беларускі памежнік быў паранены. З дапамогай польскага боку нелегалаў злавілі (але ці ўсіх — невядома). Сярод іх 14 грамадзянаў Шры-Ланкі, 7 — Бангладэш, 13 самалійцаў.

Учора была створаная спэцыяльная камісія, якая павінна высьветліць, як здарылася, што нашыя памежнікі ізноў «праспалі ў шапку» (у свой час за гэта зьнялі з пасады генэрала Бачарова) ды, апроч таго, пачалі страляць на тэрыторыі суседняй дзяржавы.

Напярэдадні, 18 сьнежня, на памежным пераходзе ў Бераставіцы нелегальна перапраўляліся праз мяжу 5 іранскіх курдаў. Яны знаходзіліся ў спэцыяльна абсталяваным схове апячатанага грузавога фургону, які вёз з Расеі ў Нямеччыну муку. Гэтым разам нашым памежнікам дапамог службовы сабака, які ўнюхаў курдаў.

Ясна адно: пакуль у нас з Расеяй «празрыстая» мяжа, мы будзем бясконца і беспасьпяхова лавіць нелегалаў з усяго сьвету на сваёй тэрыторыі. І ніякія сабакі нам тут не дапамогуць.

Іван СІДАР

## TV 6 каналаў


Як прэзыдэнт арыштаваў двух палкоўнікаў стар. 2

Былы дырэктар саўгасу спыніў свой выбар на старшыні калгасу стар. 3

Дэпутат Антончык патрабуе адстаўкі карумпаванага атачэньня Лукашэнкі стар. 4

Былы падпалкоўнік КДБ выказвае вэрсію, што праз генэрала Шыркоўскага расейскія спэцслужбы кантралююць палітыку Беларусі стар. 5

У Дом ураду патрабуецца псыхіятар стар. 8

Казакі падарылі Філарэту ордэн стар. 8


# Дзякуючы Скотланд-Ярду Лукашэнка атрымаў сьлед, які можа вывесьці на Кебіча

Вячаслаў Францавіч заявіў СВАБОДЗЕ, што ён дзейнічаў у інтарэсах Беларусі

**Карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што ў Менску знаходзіліся двое супрацоўнікаў паліцыі Англіі. Яны займаюцца справай аб фінансавых махінацыях, у якой фігуруе дакумант з подпісам былога прэм'ера Беларусі Вячаслава Кебіча.**

Наколькі нам вядома, супрацоўнікі Скотланд-Ярда арыштавалі ў Лёндане групу махляроў (4 ангельцы і адзін «югаслаў»), якія пракручвалі буйныя фінансавыя афэры, робячы вялікія грошы фактычна з паветра. Адным зь іхных «інструмантаў» была банкаўская гарантыя, выдадзеная беларускім урадам В.Кебіча. Супрацоўнікі ангельскай паліцыі перадалі беларускаму боку гэты дакумант і папрасілі правесьці расьсьледаваньне. Беларускія сьледчыя сустракаліся зь Вячаславам Кебічам і задавалі яму некаторыя пытаньні. Аднак гэта быў ня допыт, а «проста размова». На сапраўдны афіцыйны допыт Вячаслава Францавіча патрэбная згода Вярхоўнага Савету, бо былы прэм'ер зьяўляецца дэпутатам ВС і мае дэпутацкі імунітэт.

Расьсьледаваньнем займаецца Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі, непасрэдны кіраўнік . намесьнік начальніка сьледчага камітэту МУС А.Смаленцаў. Аднак ён адмовіўся паведаміць карэспандэнту СВАБОДЫ якую-небудзь інфармацыю, спасылаўшыся на «таямніцу сьледзтва». Усе вышэй пададзеныя зьвесткі нам давялося шукаць неафіцыйным шляхам праз свае крыніцы ў праваахоўных органах.

Каб праверыць інфармацыю, мы патэлефанавалі В.Кебічу. Вячаслаў Францавіч вельмі прыязна ўспрыняў званок галоўнага рэдактара СВАБОДЫ і згадзіўся патлумачыць сытуацыю. Ён пацьвердзіў, што меў размову з прадстаўніком беларускага МУС. «Але для пачатку я папрасіў іх зрабіць экспэртызу гэтага дакуманта, прывезенага з Англіі, каб ідэнтыфікаваць подпіс: ці сапраўды ён зроблены маёй рукой, — сказаў В.Кебіч. — За ўвесь час я падпісаў прыкладна тры дзясяткі падобных банкаўскіх гарантыяў і таму не магу дакладна ўспомніць, ці падпісваў менавіта гэтую гарантыю. Цалкам магчыма, што там стаіць мой сапраўдны подпіс. Але гэтая папера, перш чым трапіць да мяне на стол, прайшла праз усе неабходныя структуры, дакумант падпісалі і Камітэт зьнешнеэканамічных сувязяў, і Зьнешэканомбанк, і іншыя. Я падпісваў такія дакуманты (як, зрэшты, і любыя іншыя) толькі пасьля таго, як яны праходзілі належную экспэртызу ў адпаведных урадавых установах... Мы шукалі для Беларусі выгадныя крэдыты, аднак я не выключаю, што ў гэтым выпадку мы маглі стаць ахвярамі ашуканства. Але я павінен падкрэсьліць, што нашая краіна не панесла праз гэта ніякіх фінансавых стратаў, бо ніякага крэдыту па гэтай лініі мы ня бралі. Іншая рэч, што нашую банкаўскую гарантыю маглі выкарыстаць нашыя ангельскія партнэры ў сваіх інтарэсах. Магчыма, яны з дапамогаю гэтай паперы сапраўды рабілі нейкія махінацыі, але мне пра гэта нічога невядома».

Паводле нашых зьвестак, праваахоўныя органы Беларусі атрымалі неафіцыйны загад «з самага верху» максымальна раскруціць гэтую справу, каб атрымаць эфэктны кампрамат на Вячаслава Кебіча. Можна сабе ўявіць, як будзе радавацца Лукашэнка, калі скотланд-ярдаўскі сьлед дасьць патрэбны вынік. У прэзыдэнта тады будзе добрая фактура, каб пасьпяхова правесьці чарговае тэлешоў перад галоднымі выбаршчыкамі.

І.Г.



# Прэзыдэнт арыштаваў двух палкоўнікаў

**Двое афіцэраў у рангу палкоўніка арыштаваныя на мінулым тыдні асабіста Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам.**

Гэты арышт зьвязаны са здачаю ў арэнду ваеннага складу гаруча-змазачных матар'ялаў, які знаходзіцца ў мястэчку Сьвіслач Гарадзенскай вобласьці. Склад, разьлічаны на 20 тыс. тон, — адзіны на Беларусі. Да яго падведзеныя эўрапейская і мясцовая чыгуначныя лініі. Сёлета ў ліпені Вячаслаў Кебіч даў распараджэньне пра продаж складу, прычым пад рэзалюцыяй дата 19 ліпеня — пасьля таго, як сп.Кебіч афіцыйна падаў у адстаўку, і пасьля таго, як 15 ліпеня адбылося паседжаньне дзяржкамісіі па рэалізацыі вайсковай нерухомасьці. Рашэньне падтрымаў былы міністар абароны Павел Казлоўскі.

Калі міністрам абароны стаў Анатоль Кастэнка, было заяўлена, што продаж адмяняецца, а будзе нашмат выгаднейшая для ваеннага ведамства здача ў арэнду. На арэнду, у прыватнасьці, прэтэндавалі вытворчае аб'яднаньне «Інтэрбел», прадпрыемства «Ваўкавыскцэмэнташыфэр» і сумеснае летувіска-беларускае прадпрыемства.

6 сьнежня адбыліся таргі за права арэнды. Стартавая цана арэнднай платы за месяц склала 25 тыс. амэрыканскіх даляраў. На 35-ці тысячах «Інтэрбел» абурыўся і заявіў, што плаціць больш ня можа, але, калі цана дайшла да 50-ці тысяч, аўкцыён быў перапынены начальнікам камэрцыйнай управы міністэрства абароны і яшчэ адным палкоўнікам, якія заявілі, што атрымалі ўказ прадаставіць права на арэнду толькі «Інтэрбелу». У свой час гэтае вытворчае аб'яднаньне накіравала ліст міністэрству абароны, у якім абяцала істотна палепшыць забесьпячэньне Беларусі нафтапрадуктамі, калі яму дадуць права на арэнду. Аднак вайсковыя экспэрты СІМ адзначаюць, што склад знаходзіцца непадалёк мяжы, і, пры наяўнасьці эўрапейскай чыгуначнай лініі, груз, хутчэй за ўсё, ішоў бы толькі на Захад.

Разглядаючы гэтую гісторыю, Лукашэнка запатрабаваў, каб палкоўнікі патлумачылі, па якой прычыне яны спынілі аўкцыён. Аднак тыя не далі яснага адказу, і прэзыдэнт, карыстаючыся з правоў галоўнакамандуючага, арыштаваў афіцэраў ды накіраваў іх на гаўптвахту.

**СІМ**

# Група афіцэраў рыхтуе зварот да прэзыдэнта

**З крыніцаў, блізкіх да міністэрства абароны, стала вядома, што група афіцэраў рыхтуе зварот да прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.**

У праекце дакумэнта гаворыцца, што праблемы, якія сталі перад войскам пры былым кіраўніцтве, застаюцца і пры цяперашнім. Працэсы дэмаралізацыі беларускіх узброеных сілаў, на думку вайскоўцаў, набіраюць моцы, у тым ліку і дзякуючы сродкам масавай інфармацыі. Праект адкрытага ліста заканчваецца фразай: «Нашае цярпеньне не бязьмежнае».

**СІМ**






**У мінулую нядзелю каля Опэрнага тэатра ў Менску адбыўся мітынг БНФ, на якім удзельнікі выказалі падтрымку чачэнскаму народу.**

**Прамоўцы вельмі жорстка крытыкавалі ўнутраную і вонкавую палітыку рэжыму Лукашэнкі.**

# Апазыцыя наведала сталіцу ВКЛ

**За два апошнія тыдні сябры парляманцкай апазыцыі наведалі Лідзкі і Навагрудзкі раёны.**

Дэпутаты Вярхоўнага Савету З.Пазьняк, В.Голубеў, Б.Гюнтэр, М.Крыжаноўскі, С.Навумчык, С.Папкоў у мінулыя выходныя правялі дзьве сустрэчы з жыхарамі Навагрудка і выступілі перад выбаршчыкамі ў 8-мі сельсаветах раёну.

Пасьля сустрэч з дэпутатамі кола прыхільнікаў БНФ у Навагрудзкім раёне пашырылася на 50 чалавек, у Лідзкім — на 100. Сярод новых сяброў Народнага Фронту пераважна настаўнікі, мэдыкі і работнікі сфэры культуры.

**В.В.**

# БЗВ папярэджвае: падзеі ў Чачні адгукнуцца на Беларусі

**«Апошнія падзеі ў Чачэнскай Рэспубліцы ў самы бліжэйшы час непазьбежна выклічуць выцясьненьне з Расеі на Беларусь вялікай колькасьці крымінальных элемэнтаў зь ліку ня самых лепшых сыноў каўкаскіх народаў», — гаворыцца ў заяве Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.**

У сувязі з гэтым БЗВ зьвярнулася да прэзыдэнта і Вярхоўнага Савету Беларусі з наступнымі патрабаваньнямі: тэрмінова перавесьці дзяржаўную мяжу на ўсходзе ў рэжым кругласутачнага кантролю; неадкладна ўстанавіць строгі пашпартны кантроль і візавы рэжым уезду ў Беларусь для грамадзян — выходцаў з раёнаў, дзе вядуцца баявыя дзеяньні; пачаць масавую выдачу пашпартоў грамадзянам Беларусі; прадаставіць БЗВ магчымасьць актыўна ўдзельнічаць у дзейнасьці добраахвотных народных дружынаў па навядзеньні парадку. Акрамя таго, БЗВ запатрабавала ад уладаў сказаць народу Беларусі праўду — ці ўваходзіць Беларусь у Дамову аб калектыўнай бясьпецы, бо калі гэта так, то беларускія салдаты будуць вымушаныя ўдзельнічаць у каўкаскіх і іншых распачатых Расеяй войнах.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

# Лукашэнка не атрымае кампэнсацыі

**Пракуратура Менска спыніла справу па факце інцыдэнту ў Доме ўраду, які здарыўся пасьля першага туру прэзыдэнцкіх выбараў.**

Нагадаем, што тады А.Лукашэнка спрабаваў з боем праравацца праз міліцэйскую ахову ў апячатаны кабінэт. У выніку сутычкі зь міліцыянтамі сп.Лукашэнка атрымаў лёгкія цялесныя пашкоджаньні. Апроч таго, яму парвалі гарнітур. Па ўсіх гэтых фактах сталічная пракуратура на працягу амаль чатырох месяцаў праводзіла расьсьледаваньне, аднак не знайшла складу злачынства ў дзеяньнях супрацоўнікаў міліцыі. Так што Аляксандар Лукашэнка не атрымае кампэнсацыі за сапсаваны строй.

**СІМ**

# Нячысьцік жыве ў тэлестудыі?

**Уладзімер Мальчыкаў, які неспадзявана стаў шэфам Віцебскай тэлевізіі, каб дагадзіць свайму менскаму начальству, цяпер ня толькі ператрасае кадры, але зьбіраецца правесьці і больш «істотную» акцыю.**

Ён шукае высокапастаўленага праваслаўнага іерарха, каб асьвяціць памяшканьне студыі. Супрацоўнікі спрабуюць здагадацца, у чыім кабінэце хаваецца нячысьцік, пра якога раней нехто і ня думаў. Як, зрэшты, і сам Мальчыкаў, які працуе на тэлестудыі ўжо больш за 20 гадоў.

**Яўгенія ВІЦЬБА**

# Посахаў адзначыў юбілей

**Дарадца прэзыдэнта Сяргей Посахаў наведаў Горадню, каб зь сябрамі і блізкімі адзначыць свой 50-гадовы юбілей.**

Адстаўны палкоўнік наладзіў гулянку на сваёй прыватнай кватэры. Сьведкі сьцьвярджаюць, што рэха юбілею разьлягалася па ўсёй вуліцы. Як напісала мясцовая газэта «Пагоня», «юбіляр даў волю сваім пачуцьцям, галасна падтрымліваючы словы песьні «Дорогая моя столица, золотая моя Москва...», якая неслася па зацямнелай і насьцярожанай вуліцы Рэймонта, пужаючы сваім паўзабытым тэкстам мясцовых катоў..»

**М.Г.**

# Беларускі тыдзень у Міндэне

**Дэлегацыя з Горадні (105 чалавек) цэлы тыдзень знаходзілася ў нямецкім горадзе Міндэн, зямля Вэстфалія. Была прадстаўленая пераважна культурная праграма. У складзе дэлегацыі было некалькі дзіцячых калектываў, а таксама трупа лялечнага тэатра. Гарадзенцы падрыхтавалі спэктаклі на нямецкай мове.**

Аднак гарадзенска-міндэнскія кантакты не абмяжоўваюцца толькі культурай. Немцы ўжо падрыхтавалі праекты мадэрнізацыі водаачышчальных сыстэмаў для Горадні. Міндэнскія бізнэсмэны маюць намер далучыцца да дзяржаўнай праграмы ў дапамозе краінам СНД, якая прадугледжвае ільготнае падаткаабкладаньне. Немцы паабяцалі нам перасоўныя стаматалягічныя кабінэты. Яны таксама запрасілі да сябе выступіць футбольны клюб «Нёман» і гарадзенскіх дзюдаістаў. Нашая міліцыя таксама пажадала навязаць кантакты зь міндэнскімі калегамі.

У траўні наступнага года Горадню наведае афіцыйная дэлегацыя зь Міндэна, каб канкрэтна абмеркаваць спраўныя кантакты паміж двума гарадамі. А ў верасьні ў Горадні адбудуцца дні культуры Міндэна. Гэты нямецкі горад меншы за Горадню па насельніцтве ў 3,5 разы, але ж амаль на 500 гадоў старажытнейшы.

**С.АСТРАЎЦОЎ**

# Ёсьць ідэя пабудаваць нямецкую слабаду

**Каля вёскі Ермакі Менскага раёну плянуецца пабудаваць «нямецкую слабаду», інфраструктура якой распрацоўваецца на заходні манэр.**

Акрамя жыльля, тут пабудуць школу, дзіцячы садок, эвангельскую царкву, інфармацыйны цэнтар, гатэль. У слабадзе будзе і свая гаспадарка: два модульныя рыбзаводы. На адным будуць гадаваць карпаў, на другім — стронгаў.

Беларускія немцы спадзяюцца, што моўнае асяродзьдзе ў паселішчы дапаможа ім захаваць сваю культуру. Аднак колькасьць тых, хто дагэтуль хоча эміграваць зь Беларусі ў Нямеччыну, не зьмяншаецца. Можа здарыцца так, што, пакуль пабудуюць слабаду, немцаў на Беларусі не застанецца.

**А.Д.**

# У кожнага свае клопаты

**15 сьнежня памёр адзін са старэйшых пісьменьнікаў Беларусі Уладзімер Калесьнік.**

З гэтай прычыны ў абласной берасьцейскай газэце рыхтавалі нэкралёг. І тут паміж журналістамі ўзьнікла спрэчка: чыё прозьвішча паставіць пад нэкралёгам першым — кіраўніка абласной прэзыдэнцкай «вэртыкалі» Ул.Заламая ці старшыні абласнога савету сп.Бурскага. Урэшце вырашылі паставіць прозьвішчы паводле альфабэту: спачатку Бурскага, а потым Заламая.

**Мірон ГАМОН**

# Вынікі прэзыдэнцкіх выбараў падсумуе суд

## Ці дапаможа ўрад свайму дзіцяці?

**Ужо амаль паўгода ў Магілёўскім раённым судзе цягнецца судовы працэс паміж групай мясцовых дэпутатаў і газэтай «Белорусская нива».**

У час прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі «Белорусская нива» зьмясьціла ліст «Не дай Бог, победит Позняк», падпісаны 30-цю работнікамі магілёўскага СПТВ №1. Аўтары допісу груба абразілі кандыдата ў прэзыдэнты З.Пазьняка і ягоных магілёўскіх прыхільнікаў. Дэмакраты падалі ў суд на газэту. Яны патрабуюць, каб «Белорусская нива» ня толькі надрукавала абвержаньне і прынесла прабачэньні, але і выплаціла 20 мільёнаў рублёў у якасьці кампэнсацыі за маральныя страты. У адказ рэдакцыя газэты даслала ў суд даведку, што ня мае на сваім рахунку такіх грошай. Праўда, на адваката, які запрасіў 400 тыс. рублёў толькі за першы судовы раўнд, грошы знайшліся.

Акрамя таго, прадстаўнік газэты, які выступаў у судзе, вельмі зьдзівіў усіх сваёй недасьведчанасьцю. У прыватнасьці, ён заявіў, што «Белорусская нива» "адказнасьці за пісьмы чытачоў не нясе і гатовая была надрукаваць тады лісты прадстаўнікоў БНФ». Між тым, паводле закону, якраз газэта найперш нясе адказнасьць за ўсё, што друкуе на сваіх старонках.

Дэпутат Магілёўскага абласавету Натальля Рослава сказала карэспандэнту СВАБОДЫ, што спаганятыя «судовую справу амаль выйгралі». А спасылкі «Белорусской нивы» на тое, што ў іх няма грошай, яна лічыць несур'ёзнымі: «Выдаўцом газэты зьяўляецца ўрад, вось ён няхай і плоціць за неразумныя паводзіны свайго дзіцяці».

**Анатоль МІРСКІ**

## Прычапіліся да плоту, але не свайго

**Дырэкцыя Берасьцейскага радыётэхнічнага заводу спрабавала праз суд спагнаць 179 тыс. рублёў зь мясцовых арганізацыяў БНФ і БЗВ.**

Прычынай судовага працэсу стала звычайная бэтонная агароджа. У час прэзыдэнцкай кампаніі прыхільнікі лідара БНФ напісалі на плоце «Пазьняк — наш шанец». Амаль на наступны дзень тагачасныя ўлады Берасьця загадалі адміністрацыі радыётэхнічнага завода зафарбаваць «бэтонны плякат». Заводзкае начальства загад выканала, але вырашыла спагнаць кошт фарбы з кіраўнікоў дэмакратычных арганізацыяў — і падала на іх у суд.

Аднак падчас разгляду справы высьветлілася, што адміністрацыя завода ня можа выстаўляць якія-небудзь прэтэнзіі, бо плот належыць зусім іншай арганізацыі — будаўнічай упраўе №32. А будаўнікі ў сваю чаргу ня маюць да дэмакратаў аніякіх прэтэнзіяў. Наадварот, яны задаволеныя, што цяпер іхны плот мае больш прыстойны выгляд.

**Яўген АЛАДКА**

## Заданьне Гарбачова выканалі!

**На замову фонду Міхаіла Гарбачова ў Гораднi праведзенае тэлефоннае апытаньне жыхароў на тэму «настальгіі па СССР».**

Апытаньне праводзілі кіраўнік маскоўскага Цэнтру геапалітычных дасьледаваньняў доктар Уладзімер Коласаў і ягоны супрацоўнік Аляксей Крындач.

На пытаньне *«Грамадзянінам якой дзяржавы вы хацелі б быць?»* адказы падзяліліся наступным чынам. Найбольшая група рэспандэнтаў — 46,7% — хочуць быць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Сумуюць па СССР — 37,8%. 6,5% хацелі б стаць грамадзянамі Польшчы або аб'яднанай польска-беларускай дзяржавы. Астатнія не змаглі вызначыцца (4%) або сказалі, што яны абыякавыя да гэтай праблемы (4%).

Другое пытаньне гучала так: *«У выпадку, калі адбудзецца аб'яднаньне Беларусі, Расеі ды іншых рэспублікаў СССР, то якую форму для гэтага вы лічыце найлепшай?»*. За СССР выказаліся 27,4%, а за паступовае ўмацаваньне цяперашняга СНД праз больш цесныя эканамічныя сувязі — 36,8%. Амаль чвэрць апытаных лічаць, што на тэрыторыі колішняга СССР варта стварыць некалькі саюзаў рэспублік — славянскіх, балтыйскіх, каўкаскіх і г.д.

*«У чым прычына таго, што паміж Беларусьсю і Расеяй сёньня няма цеснага саюзу і супрацоўніцтва?»* Такі аб'ектыўны ход гістарычнага разьвіцьця, — пераканаными амаль 16% апытаных. Крыху больш лічаць вінаватым беларускае кіраўніцтва, а 8,5% абвінавачваюць Расею. Тымчасам амаль 40,5% рэспандэнтаў наконт гэтага зусім не змаглі нічога сказаць.

Як нам здаецца, вынікі апытаньня даволі кансэрватыўныя па дзьвюх прычынах. Па-першае, бальшыня апытаных 60,7% — жанчыны, якія адрозьніваюцца ад мужчын больш кансэрватыўным поглядаў. Па-другое, 32,3%, або амаль трэць кантынгенту, — расейцы, настальгія якіх па СССР і па Расеі цалкам зразумелая.

Сярод рэспандэнтаў былі таксама 49,7% беларусаў, 7% украінцаў і толькі 9,5% палякаў, якіх у Горадні пражывае значна больш. Усяго па заданьні фонду Гарбачова ў Горадні былі апытаны 201 жыхар горада.

**С.МАКС**

# Былы дырэктар саўгасу спыніў свой выбар на старшыні калгасу

**У Горадні сваю «вэртыкаль» Лукашэнка рабіў у Палацы хімікаў. На вуліцы яго сустракалі, паводле ацэнак самога Лукашэнкі, некалькі тысяч чалавек з плякатамі крытычнага зьместу.**

Зь пікету чуліся выгукі накшталт «Ганьба!», «У адстаўку!» і г.д. Уражаны сустрэчай, беларускі прэзыдэнт падышоў да пікетчыкаў і сам, асабіста стаў зьбіраць плякаты...

У залі на 700 чалавек было 162 дэпутаты аблсавету, астатнія мейсцы займалі запрошаныя, сярод іх было чалавек 60 «ачышчэнцаў». Калі Лукашэнка выйшаў на сцэну, «ачышчэнцы» паўставалі, але астатняя публіка дэманстратыўна засталася сядзець.

Каб заваяваць прыхільнасьць, Лукашэнка пахваліў залю: «Здесь живут пахари — люди, умеющие работать. Они ненавидят жуликов, коммерсантов». Але, высьвятляецца, ня толькі іх. Бо прэзыдэнт усё ж не стрымаўся, сказаўшы: «Я вижу в зале людей, которые не просто ненавидят, а люто ненавидят президента». Заля адказала яму сьмехам.

Дарэчы, высокі госьць паведаміў, што ён добра паінфармаваны пра тэндэнцыі ў грамадзкай думцы Гарадзеншчыны. Даведаўшыся, «что здесь происходит», Лукашэнка нават падумваў прысылаць замест сябе свайго прадстаўніка, але ўсё ж наважыўся ехаць сам, паколькі яму «стыдиться нечего»: «я ничего не украл».

Зважаючы на «неадназначную» сытуацыю, Лукашэнка ня стаў адразу навязваць канкрэтную кандыдатуру на пасаду кіраўніка вобласьці. Ён толькі назваў тры прозьвішчы: старшыні аблвыканкаму С.Домаша, дырэктара калгасу-камбіната «Прагрэс» А.Дубко і былога першага сакратара абкаму КПБ, а сёньня камэрсанта У.Сямёнава. Мауляў, выбірайце самі, а я пасяджу, паназіраю ды паслухаю... Стукнуўшы пасьля гэтага кулаком па трыбуне, Лукашэнка пайшоў і сеў.

Пачалося абмеркаваньне. Сямёнава нахвальвалі: маўляў, ён не цураўся «общения с простыми людьми и один из немногих не был ослеплен результатами перестройки». Нехта назваў кандыдатаў «тремя красными девицами», а нейкі Філіпаў заклікаў галасаваць за Сямёнава ад імя «всего физкультурного движения Беларуси».

Большасьць прамоўцаў, аднак, выказвалася ў падтрымку С.Домаша. Гэта страшэнна не спадабалася «ачышчэнцам», якія пачалі сьвістаць быццам на стадыёне, ды так, што сам Лукашэнка змушаны быў заклікаць іх да парадку. Домаша падтрымалі, апроч іншых, прадстаўнікі Саюзу палякаў, сказаўшы, што толькі ён зможа прывесьці да суладзьдзя ў міжнацыянальных адносінах... А пасьля заявы вайскоўца: «Воиска поддерживают С.Домаша», — А.Лукашэнка не стрымаўся: «Меня, как главнокомандующего, настораживает такое заявление». Процілеглы бок пераконваў, што гарадзенскі люд марыць і нават сьніць, каб вобласьцю зноў кіраваў камуніст Сямёнаў.

Дакладна вядома, што Лукашэнка прыехаў у Горадню, каб прызначыць Сямёнава. Да гэтага яго схіляла ягоная каманда (у прыватнасьці, палкоўнік Посахаў). Аднак на мейсцы прызыдэнт пераканаўся, што такое прызначэньне выкліча на Гарадзеншчыне адмоўную рэакцыю сярод вялікай колькасьці насельніцтва. Тым жа часам ён вельмі не жадаў далейшага ўмацаваньня Сямёна Домаша, бачачы ягонае і так досыць трывалае становішча.

Самае ж галоўнае, што Лукашэнка мусіў замяніць С.Домаша (які на гэтай пасадзе працаваў толькі год), каб паказаць народу, што ён хоць нешта прадпрымае. Фінансавая сыстэма развальваецца, інфляцыя галяпіруе, а ён — Лукашэнка — здымае чыноўнікаў, якія ў гэтым нібыта вінаватыя. Дарэчы, С.Домаш трымаўся з годнасьцю, дэманстратыўна вёў сэсію на беларускай мове, якой, як вядома, Лукашэнка не ведае і якою адкрыта грэбуе.

Такім вось чынам на пасадзе старшыні аблвыканкаму выпадкова апынуўся Аляксандар Дубко. Сам Лукашэнка прызнаўся, што напярэдадні сустракаўся з Дубко для размовы, аднак не прапаноўваў яму новую пасаду.

А.Дубко сказаў, што на прэзыдэнцкіх выбарах ён быў супернікам А.Лукашэнкі, але ня ворагам. Яшчэ ён нагадаў, што яго абвінавачвалі тады, быццам ён хоча зрабіць зь Беларусі адзін вялікі калгас «Прагрэс». Але, маўляў, каб гэта праўды ўдалося ажыцьцявіць, дык мы выперадзілі б нават Швайцарыю. Паколькі, як ён лічыць, сельская гаспадарка і перапрацоўчая прымысловасьць — аснова сувэрэннай Беларусі.

Нэўтральнасьць асобы А.Дубко і ягонае апошняе выказваньне паўплывалі, мабыць, на А.Лукашэнку — нядаўняга дырэктара саўгасу. І ён ня стаў рызыкаваць з прызначэньнем Сямёнава. Сказаў, што мусіць згадзіцца на кампраміс.

Такім чынам, «камуністычна-ачышчэнскі» альянс не атрымаўся. Аднак цалкам магчыма, што постаць А.Дубко — да часу і ўвесну будзе зробленая наступная спроба пасадзіць у крэсла старшыні аблвыканкаму таго ж У.Сямёнава.

Зрэшты, магчымы і яшчэ адзін варыянт, пра які абмовіўся А.Лукашэнка. Задаючы залі рытарычнае пытаньне: «А не расколет ли Семенов общество?» — ён цікавіўся, няўжо сярод прысутных няма чалавека, які мог бы ўстаць і сказаць: «Товарищ президент, я все возьму в свои руки и смогу выполнить вашу линию». Лукашэнка нават выказаў сэнсацыйнае меркаваньне, што, магчыма, яму самому давядзецца «переезжать в Гродно и руководить областью и республикой в целом». Ну што ж, ураду БНР таксама некалі давялося перабрацца ў Горадню, калі Менск занялі бальшавіцкія войскі. Аднак у Лукашэнкі, як заўсёды, ёсьць свая прычына: ён моцна палохаў гарадзенцаў тым, што неўзабаве ў іх пад бокам будзе NATO...

**Ігар ЛАРЫВОНЧЫК**



# Прэзыдэнцкая камісія накапала ў лазьні кампрамату

**У мінулую пятніцу ў Горадні падведзеныя вынікі працы прэзыдэнцкай камісіі.**

Такім чынам, скончылася праверка ўсёй Гарадзенскай вобласьці на прадмет, як мясцовыя ўлады рэагуюць на скаргі жыхароў. У Горадні камісія «капала» ажно два тыдні, але так нічога істотнага і не знайшла. Кіраўнік камісіі сп.Юрага нават параўнаў горад з кропляй прэснай вады ў салёным моры. Ці ня самым вялікім непарадкам прызналі тое, што ў гарадзкой лазьні не зусім танныя білеты, аднак сп.Юрагу патлумачылі, што лазьня і так на 70% утрымліваецца ўладамі, а наведвальнікі аплочваюць толькі 30% кошту. А ўвогуле ў горадзе ў 97% дамоў ёсьць гарачая вада, так што людзі ў Горадні — мытыя.

Мабыць, каб усё ж знайсьці нейкі кампрамат, у горадзе будзе праведзеная дадатковая праверка. Невыпадкова ж кіраўнік кантрольнай службы прэзыдэнцкай адміністрацыі ў Горадні С.Гараеў атрымаў сацыяльны заказ ад самога Лукашэнкі, калі той нядаўна выступаў у Горадні. Прэзыдэнт двойчы папракнуў сп.Гараева, што па выніках праверак у Магілёве ўжо «садзяць» дырэктараў прадпрыемстваў, а ў Горадні — нічога падобнага не адбываецца.

**В.ВАСІЛЕВІЧ**

# Паслухаем, што скажа Антончык



В этой связи я считаю, что выступление Антончика С.А. с информацией без предварительного обсуждения на соответствующей комиссии нарушает принятую процедуру по рассмотрению и принятию решений Верховным Советом.

При этом хотел бы обратить Ваше внимание на то, что Администрация Президента существует с 10 августа 1994 г. и факты коррупции в ее составе я готов выслушать за данный период времени.

Меня настораживает и то обстоятельство, что данные, якобы имеющиеся у Антончика С.А., не проверены и Президенту на реагирование не представлены. Это однозначно свидетельствует о том, что данная акция - политический выпад оппозиции накануне предстоящих парламентских выборов и вряд ли она может способствовать борьбе с коррупцией как с реальным общественным злом.

А.Лукашенко

**Гэты ліст А.Лукашэнка даслаў на імя М.Грыба, каб не дапусьціць выступу дэпутата С.Антончыка на сэсіі Вярхоўнага Савету.**

Прэзыдэнт сьцьвярджае, што Вярхоўны Савет парушае прынятую працэдуру. Між тым Прэзыдыюм ВС, разглядаючы зварот Лукашэнкі, адназначна заявіў, што выступ С.Антончыка ніякім чынам не парушае цяперашні рэгламант Вярхоўнага Савету.

Зьвернем увагу і на такі момант: Лукашэнка заяўляе, што «готов выслушать факты коррупции за период с 10 августа 1994 г.» Вельмі дзіўная пазыцыя ў нашага прэзыдэнта. Атрымліваецца, што Лукашэнка сьвядома заплюшчыў вочы на ўсе ранейшыя грахі сваіх людзей. Мечыслаў Грыб пракамэнтаваў гэта наступным чынам: «Дэпутат Антончык слушна ставіць пытаньне: пра ўсё, што было да прэзыдэнцкіх выбараў, трэба забыцца, але толькі не пра крымінал!»

У панядзелак на сэсіі людзі прэзыдэнта таксама спрабавалі заблякаваць выступ С.Антончыка. Дэпутат В.Кучынскі, напрыклад, настойліва пераконваў, што спачатку трэба разгледзець інфармацыю С.Антончыка ў камісіі. Былы функцыянэр ЦК КПБ, дэпутат Ул.Самашчаў, які некалі быў апантаным абаронцам Кебіча, цяпер кінуўся абараняць новага «бацьку», патрабуючы, каб сп.Антончык перадаў спачатку сваю інфармацыю на разгляд прэзыдэнту, пракурору і г.д.

Дэпутат Антончык вымушаны быў працытаваць тое, што Лукашэнка гаварыў роўна год таму ў сваім вядомым дакладзе аб карупцыі на сэсіі Вярхоўнага Савету. Вось тыя словы Лукашэнкі: *«Мы предлагаем ввести в практику работы Верховного Совета регулярные парламентские слушания о высших чиновниках, погрязших в коррупции. В том числе — слушания, коль возникнут основания, и о самих народных депутатах Верховного Совета... Власть, а тем более большая, как известно, портит человека. Поэтому и нужен, на наш взгляд, механизм публичного разоблачения не выдержавших искуса высоких чинов. Иного места для такого механизма нет, кроме как в парламенте. Кстати, так делается во всех цивилизованных государствах, на которые мы любим так часто ссылаться».*

Так заяўляў Лукашэнка год назад. Цяпер, як бачым, іншая пазыцыя.

І ўсё ж дэпутат Антончык сёньня (20 сьнежня) а 10-й гадзіне раніцы павінен атрымаць слова. Паводле рэгламанту ягоны выступ можа доўжыцца ня больш за адну гадзіну. Сяргей Антончык сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што яму дапамагалі зьбіраць і аналізаваць інфармацыю прыкладна 200 чалавек, бальшыня якіх — вельмі дасьведчаныя спэцыялісты той ці іншай сфэры. Дэпутат Антончык паведаміў таксама, што ён уносіць праект пастановы з патрабаваньнем адстаўкі канкрэтных службовых асобаў за злоўжываньні і карупцыю. Антончык назваў карэспандэнту СВАБОДЫ наступныя прозьвішчы: **Леанід Сініцын** (шэф адміністрацыі прэзыдэнта), **Іван Ціцянкоў** (кіраўнік спраў прэзыдэнта), **Віктар Кучынскі** (пасланьнік прэзыдэнта па асобых даручэньнях), **Васіль Далгалёў** (кіраўнік прэзыдэнцкай службы кантролю), прэм'ер-міністар **Міхаіл Чыгір**, віцэ-прэм'еры **Уладзімер Гаркун, Сяргей Лінг, Міхаіл Мясьніковіч**, міністар абароны **Анатоль Кастэнка...**

Астатнія прозьвішчы і канкрэтныя факты стануць вядомыя сёньня. Апазыцыя настойвае, каб падчас разгляду гэтага пытаньня вялася прамая радыётрансьляцыя. Аднак вельмі слабая надзея, што Вярхоўны Савет пагодзіцца на гэта. Цалкам верагодна, што трансьляцыі ня будзе. У выпадку, калі афіцыйная прэса ня дасьць аб'ектыўнай і поўнай інфармацыі пра выступ дэпутата Антончыка, газэта СВАБОДА ў наступным нумары паведаміць усе важныя падрабязнасьці.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

# Цэпкала: шлях угору

**Гэты вясёлы хлапец, якога вы бачыце на здымку, — першы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі.**



Менавіта ён, Валеры Цэпкала, зьяўляецца галоўным дарадцам прэзыдэнта Лукашэнкі ў сфэры вонкавай палітыкі. Некалі ён быў дарадцам старшыні Вярхоўнага Савету С.Шушкевіча. Менавіта «з падачы» В.Цэпкалы, як лічыць дэпутат В.Голубеў, Станіслаў Шушкевіч «далучыў» нашую краіну да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы. У колах парляманцкай апазыцыі В.Цэпкалу называюць не інакш, як «чалавекам Масквы».

Асьпірант Маскоўскага інстытута міжнародных адносінаў В.Цэпкала дзіўным чынам трапіў на Беларусь. Яшчэ больш дзіўным чынам ён за два гады зрабіў у нас імклівую кар'еру. У беларускі МЗС яго ўзяў на працу (часова) Пётр Краўчанка, прызначыўшы на самую нізкую пасаду аташэ. Кажуць, пазьней міністар Краўчанка шкадаваў, што памыліўся, і хацеў звольніць Цэпкалу «за прафэсійную непрыдатнасьць». Але той сышоў сам — дарадцам да сьпікера Шушкевіча. Дасьведчаныя людзі сьцьвярджаюць, што Шушкевіч нібыта ўзяў Цэпкалу найперш дзеля таго, каб той дапамагаў яму «змагацца» з Краўчанкам. Але застаецца няясным галоўнае пытаньне: чыя ж рука падсунула ўчорашняга маскоўскага студэнта Шушкевічу?

А калі пачалася прэзыдэнцкая кампанія, то мы ўбачылі В.Цэпкалу ўжо ў камандзе А.Лукашэнкі. Звычайны палітычны цынізм? Аднак выбар быў беспамылковы. У выніку — Цэпкала ўзьляцеў на вяршыню ўлады.

Здаецца, сп.Цэпкала пачувае сябе нават вышэй за тую пасаду, якую займае афіцыйна. Часам гэта выглядае папросту сьмешна. Напрыклад, калі міністар замежных справаў Ул.Сянько выяжджае ў камандзіроўку, В.Цэпкала перабіраецца ў ягоны кабінэт і кіруе: прымае тут людзей, звоніць па тэлефонах і г.д. Падобныя рэчы абсалютна недапушчальныя, аднак Цэпкалу гэта не хвалюе. Відаць, Валерку надта ж карціць сапраўды заняць гэты кабінэт.

Але часам здараюцца «праколы». Міністэрства замежных справаў Эгіпта запрасіла да сябе на стажыроўку беларускага дыплямата. Цішком ад іншых супрацоўнікаў было вырашана паслаць на дыпляматычную стажыроўку ў Каір 20-гадовую дзяўчыну, былую афіцыянтку, якая цяпер займаецца ў МЗС замовамі квіткоў. Накіравалі ў Эгіпет адпаведныя паперы, дзяўчына ўжо зьбірала свае торбы, але раптоўна афэра выкрылася. Давялося адправіць дыплямата.

Яшчэ адна цікавая гісторыя здарылася тры гады таму ў Горадні на аб'яднаньні «Азот». Там разгарэўся скандал, у выніку якога старшыні прафкаму Алейніку нават давялося разьвітацца з пасадаю. Прычынаю стала тое, што аддзел падрыхтоўкі кадраў, якім кіравала жонка Алейніка, пералічыў Маскоўскаму інстытуту міжнародных адносінаў 300 тыс. рублёў — немалыя на той час грошы. Высьветлілася, што ў МІМА ў гэты час навучаўся іхны сын, а таксама сын начальніцы аддзелу працы і заработнай платы Ніны Цэпкала — Валерый. Пытаньне ўсплыло на прафсаюзнай канфэрэнцыі. Рабочыя іранізавалі: маўляў, адміністрацыя «Азоту» зьбіраецца стварыць уласнае міністэрства замежных справаў. Такога, канечне ж, не адбылося, але затое цяпер Валерый Цэпкала стаў першым намесьнікам міністра замежных справаў Беларусі. Кажуць, што гэтая акалічнасьць выратавала ягоную маці ад звальненьня. Працоўную дамову зь ёю адразу ж прадоўжылі без усялякіх пытаньняў, хоць перад тым не хацелі гэтага рабіць: яна ўжо на пэнсіі.

Дзіўная і загадкавая гэта фігура — Валеры Цэпкала...

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**
**Сяргей СТАНКЕВІЧ**

## Сёньня

**Сяргей ДУБАВЕЦ**

# Палітычная воля

Пройдзе яшчэ тры ці пяць гадоў, і сьвет вакол нас зьбольшага аформіцца. Польшча, Латвія, Летува ўвойдуць у Эўрапейскі зьвяз і ў NATO — на абшары стабільнасьці і эўрапейскай інтэграцыі. Расея, разьвязаўшы вайну на Каўказе і правакуючы гэтым іншыя свае аўтаноміі, будзе далей патанаць у хаосе і дэградацыі — пакуль не здарыцца якая-небудзь чарговая рэвалюцыя ці не распачнецца вайна. Паміж аб'яднанай Эўропай і Расеяй — паміж стабільнасьцю і развалам — усталюецца мяжа, жорсткая і амаль непранікальная. Наш лёс залежыць ад таго, зь якога боку гэтай мяжы апынемся мы, беларусы. Падобна на тое, што жыць мы будзем так, як і сёньня, — у крытычнай нявызначанасьці. Або яшчэ горш. Бо ў блёку з Расеяй (у непрадказальнасьці стыхіі) захаваць такія выразныя чыньнікі стабілізацыі, як незалежнасьць, прыватная ўласнасьць, правы чалавека, — будзе немагчыма.

Хоча ці ня хоча Беларусь у аб'яднаную Эўропу? — адказу на гэтае пытаньне няма, бо пакуль ніяк ня вызначаная **палітычная воля** Беларусі, якая, урэшце, вырашае ўсё.

Палітычная воля — гэта тое, за фармаваньне чаго нашыя заходнія і паўночныя суседзі ўзяліся ў першую чаргу. Гэта тое, што ў Эўропе гэтак жа канкрэтнае і матар'яльнае, як і сама краіна. Для нас, хто ўсё яшчэ існуе ў расейскай сыстэме каардынатаў, палітычная воля — абстракцыя, словы, балбатня.

І зразумела, чаму. Сёньняшняе кіраўніцтва Беларусі мысьліць па-расейску і разам з мовай успрымае ўсе сэнсы і праявы жыцьця, а для Расеі такія паняцьці, як незалежнасьць, правы чалавека, палітычная воля — нічога ня значаць у параўнаньні з словамі «звышдзяржава», «вялікі народ», «жалезная рука». Відавочна, што таварышчы мысьляць зусім ня мовай Тургенева, а сурагатам з бальшавіцкага канцылярыту, лягернай фені і беларускай трасянкі. І хоць А.Лукашэнка бясконца ўзвышае гэты свой сурагат па-над моваю беларускай, менавіта зь беларускай мовы і можа пачацца палітычная воля Беларусі і яе інтэграцыя ў Эўропу. Свая мова, гісторыя і культура — першы пропуск у Эўрапейскі зьвяз, у стабільнае і забясьпечанае жыцьцё. Нездарма на кожнай сустрэчы і ў кожнай заяве лідараў Зьвязу падкрэсьліваецца нацыянальная спэцыфіка як перадумова інтэграцыі. Балай, асабліва на гэта зважае Францыя, якая з 1 студзеня будзе старшыняваць у Эўропе.

Але на ўзроўні расейскай стыхіі і расейскай сьвядомасьці згаданыя падставы не патрабуюцца, іх нібы і няма зусім.

Зразумела, што і з усходняга боку мяжы мусіць быць нейкая пазытыўная пэрспэктыва. Але не з нашаю дапамогай і не для нас. Расея — апошняя імпэрыя — ніколі ня стане цывілізаванай краінай, пакуль будзе абчэпленая такімі «братамі меншымі», як мы. Бо ў такой сытуацыі яна сама ня зможа выпрацаваць палітычную волю нармальнай (як іншыя) краіны, а будзе вымушаная шызафрэніраваць паміж функцыямі супэрбагатай і аднachасова супэрбеднай дзяржавы, карміцелькі і тырана, «родины свободы» і «тюрьмы народов». Яна будзе весьці лякальныя войны, душыць паўстаньні, сьціскаць у аблозе гарады, як рабіла гэта праз усю сваю гісторыю. Пакуль такія, як мы, не дасьпеюць да ўласнае палітычнае волі і ня вызваляць яе ад абавязкаў ката-апекуна. Пакуль жа Расеі нас і ўтрымліваць брыдка, і кінуць шкода.

Магчыма, час крыху апярэджвае нашыя памкненьні да незалежнасьці. Суседзі ўсё далей адрываюцца ад нас. І ў альтэрнатыве інтэграцыі альбо ў Эўропу, альбо ў адзінае цэлае Расеі ўсё больш і больш пераважае другі варыянт. Але ж і нашае нацыянальнае адраджэньне зайшло занадта далёка, каб, увайшоўшы ў Расею, мы тым самым вызвалілі яе ад сябе. Зародак нашай палітычнай волі мае і можа мець толькі праэўрапейскі характар, што пры інтэграцыі з Расеяй ператварае Беларусь у яшчэ адну міну запаволенага дзеяньня.

# На каго працуе „ўзброены атрад“?

## Былы падпалкоўнік КДБ выказвае вэрсію, што праз генэрала Шыркоўскага расейскія спэцслужбы кантралююць палітыку Беларусі

«Узяцца за пяро» мяне вымусілі апошнія публікацыі ў розных газэтах (у прыватнасьці, у «Свабодзе», «Народнай газеце», «Звяздзе») наконт КДБ Рэспублікі Беларусь. Тэма ня новая, але вельмі далікатная. Шмат публікацый на ўзроўні эмацыйнага ўспрыняцьця гэтай установы, шмат некампэтэнтных матар'ялаў. Але нашыя грамадзяне павінны ўявіць, што такое КДБ — што агульнага паміж КДБ і спэцслужбай і што іх адрозьнівае. Якая роля адводзілася КДБ у мінулым і якая спэцслужба патрэбная нам на будучыню. Гэта будуць толькі мае думкі і погляды, якія не прэтэндуюць на ісьціну ў апошняй інстанцыі.

Нягледзячы на далікатнасьць тэмы, маўчаць нельга. Беларусь перад выбарам: або яна будзе незалежнаю, або шматвяковыя змаганьні шматпакутнага народу за незалежнасьць скончацца для дзяржавы бядой. Гэта залежыць ад вышэйшага палітычнага кіраўніцтва дзяржавы, але не ў малой ступені і ад КДБ.

У былой савецкай імпэрыі КГБ (НКВД, ЧК) выконваў вядомую ролю — ролю «узброенага атраду партыі», шчыта і мяча. Шчыт як абарона кіраўнічай эліты партыі і ейнае ідэалёгіі ад нападаў іншадумцаў (як у СССР, так і за мяжой) і меч для саміх іншадумцаў.

Безумоўна, ролю КДБ нельга разглядаць залішне катэгарычна-аднабакова. Там, дзе інтарэсы ўлады, і ў першую чаргу кіраўнічай вярхушкі, супадалі з інтарэсамі бясьпекі дзяржавы, КГБ спрацоўваў у станоўчым кірунку. А там, дзе гэтыя інтарэсы разыходзіліся, КГБ выступаў у ролі бізуна, а то і сякеры супраць сваіх грамадзянаў. На вялікі жаль, паліцэйскія функцыі КГБ заўсёды былі больш важкія, і ахвяраў ЧК, НКВД, КГБ сярод свайго народу было непараўнана больш, чым затрыманых шпіёнаў.

Кіраўнічая эліта КПСС надзейна трымала ўладу ў руках дзякуючы дзейнасьці менавіта гэтага «узброенага атраду». Практычна ўсё ў дзяржаве знаходзілася пад «пільным вокам» КГБ. Асаблівае значэньне надавалася тым сфэрам жыцьця, якія аб'ектыўна ўздзейнічалі на розум грамадзтва, а таму дзяржбясьпека прыдзяляла столькі ўвагі менавіта журналістам, пісьменьнікам, сьвятарам і проста аўтарытэтным і ўплывовым грамадзянам. Шмат хто зь іх, па тых ці іншых прычынах, траплялі пад вярбоўку і вымушаныя былі ў якасьці патаемных агентаў выконваць такія задачы, пра якія цяпер безь іроніі і ня скажаш, але ў тыя часы эфэкт ад іхнай працы быў немалы.

Маштабы агентурнага ўплыву на грамадзтва простаму чалавеку цяжка ўявіць. Улічваючы разьдзьмутыя штаты КДБ і ў некалькі дзясяткаў разоў большыя «штаты» агентуры, ня дзіва, што гэтая арганізацыя цьвёрда кантралявала ўладу ў дзяржаве, канкуруючы па ўплыве на ўнутраную і вонкавую палітыку толькі з КПСС. У гісторыі СССР былі выпадкі, калі КГБ браў верх нават над элітай КПСС.

Пасьля вядомых падзеяў жніўня 1991г. сыстэма ўлады КПСС—КГБ амаль ва ўсіх краінах былога СССР аб'ектыўна абрынула. Акрамя... Беларусі — дэ факта. Жнівеньская «навальніца» не пасьпела даляцець да Менска, як В.Кручкоў і К° апынуліся за кратамі. Праз «памяркоўнасьць характару» кіраўнікі БССР не змаглі актыўна падтрымаць «паўстанцаў», але гэта дало магчымасьць «малой крывёю» амаль усім застацца пры ўладзе. А наш КГБ, своечасова зарыентаваўшыся, увогуле не займеў ніякіх «баявых стратаў». Карыстаючыся момантам, пацішу зьмяніўшы шыльды на будынках, былая ўлада працягвала панаваць на Беларусі, не мяняючы сутнасьці. Тымчасам Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі, пазбавіўшыся «каўпака» КПСС—КПБ, пачаў набіраць абароты ў барацьбе за ўладу.

Толькі гэтай прычынай — барацьбой за ўладу — тлумачыцца нежаданьне тагачаснага шэфа КДБ Э.Шыркоўскага рабіць якія-небудзь рэформы ў сваім ведамстве. А В.Кебіч таксама ня быў зацікаўлены ў рэфармаваньні КДБ, бо меркаваў, што цяпер гэта будзе ягоны «узброены атрад». Перадзелам сфэраў уплыву і барацьбой за ўладу можна растлумачыць і «бунт двух генэралаў» (а дакладней, Э.Шыркоўскага і «примкнувшего к нему» У.Ягорава), калі «нейкі там» Г.Данілаў паспрабаваў уплываць на КДБ. Аднак Э.Шыркоўскі не разьлічыў сваіх сілаў і вымушаны быў пайсьці ў адстаўку. Спробы «мяккай» рэформы КДБ аб'ектыўна не маглі ажыцьцявіцца і пры Г.Лавіцкім. Бо ведамства падпала пад яшчэ мацнейшы ўплыў В.Кебіча, а таго, вядома, такое становішча задавальняла.

Якую ж ролю выконвае КДБ цяпер? Каб растлумачыць сутнасьць і мэханізм уплыву КДБ на прэзыдэнта Лукашэнку, я буду карыстацца фактамі, сьведкам якіх быў сам, а дзе гэта немагчыма — буду выказваць сваю думку як гіпотэзу.

Мая вэрсія заключаецца ў наступным: спэцслужбы Расеі праз свайго пасярэдніка Э.Шыркоўскага ўплываюць на «сустаршынь» КДБ У.Ягорава і В.Кезу, а тыя напасрэдна і праз свайго стаўленіка В.Шэймана, каардынуючы і дазіруючы інфармацыю, уплываюць на прыняцьце рашэньняў прэзыдэнтам Беларусі. А цяпер дэталёва пройдземся па ўсім «ланцужку».

Думаю, не выклікае сумневу той факт, што Беларусь для Расеі, як з пункту гледжаньня геапалітычнага, эканамічнага, так і з пытаньняў вайсковай бясьпекі, уяўляе стратэгічны інтарэс. Гэта і бясплатны калідор у Эўропу, і нафтагазавая субструктура, і вайсковая «бронежакетка», і г.д. А таму ня могуць спэцслужбы Расеі быць абыякавымі да Беларусі. Як, дарэчы, і спэцслужбы іншых дзяржаваў. Але Расея ў гэтым сэнсе мае больш выгаднае становішча: мацнейшыя гістарычныя сувязі ды вельмі цесныя пэрсанальныя стасункі супрацоўнікаў беларускай і расейскай спэцслужбаў.



Генэрал Эдуард ШЫРКОЎСКІ

Чаму менавіта Э.Шыркоўскі адыгрывае ролю мастка паміж спэцслужбамі? Па-першае, Э.Шыркоўскі павінен аддзячыць маскоўскім калегам за 3-пакаёвую кватэру, якую атрымала ў Маскве ягоная дачка. (На той момант Э.Шыркоўскі займаў пасаду старшыні КДБ Беларусі). Пасьля адстаўкі Шыркоўскага, шэф расейскай выведкі Прымакоў (зьвесткі друку) прапанаваў Шыркоўскаму пасаду ў сваім ведамстве. Не за прыгожыя вочы, трэба думаць, атрымаў апартамэнты на 3 пакоі ў Маскве і сам Шыркоўскі, маючы нядрэнную кватэру ў Менску. Ёсьць таксама зьвесткі, што нават пэнсію Э.Шыркоўскаму плоціць Масква. На ролю пасярэдніка Эдуард Шыркоўскі падыходзіць яшчэ і таму, што нядрэнна ведае Беларусь ды кіраўнікоў КДБ, многія зь якіх павінны быць удзячныя яму асабіста. Напрыклад, менавіта воляю Шыркоўскага амаль зь нябыту быў узьняты да пасады намесьніка старшыні КДБ, начальніка вайсковай контрвыведкі Валерый Кез. Колішняе сяброўства, падобны пасьляпутчаўскі шлях і, што вельмі істотна, уплыў на У.Ягорава — замацавалі іхныя добрыя адносіны. Дарэчы, менавіта Э.Шыркоўскі ішоў поруч з У.Ягоравым па прыступках лесьвіцы Вярхоўнага Савету ў дзень, калі адбывалася другая «каранацыя» У.Ягорава на высокую пасаду.

Але вернемся да «пэнсіянэра» Э.Шыркоўскага. На прэзыдэнцкіх выбарах ён разам з В.Кезам дапамагаў Лукашэнку. Трэба ведаць характар Эдуарда Іванавіча — ніяк не мог ён дараваць В.Кебічу сваёй адстаўкі. Улічваючы пазыцыю Масквы ў дачыненьні да З.Пазьняка, ня мог Шыркоўскі ставіць і на яго. Ставіць жа на В.Новікава або А.Дубко было папросту бессэнсоўна. А таму — разьлік просты і беспамылковы: У.Ягораў у камандзе С.Шушкевіча, В.Кез — у камандзе А.Лукашэнкі.

Перамога А.Лукашэнкі дазволіла В.Кезу, а разам зь ім і У.Ягораву, апынуцца ў бліжэйшым атачэньні прэзыдэнта, гэта значыць — і больш эфэктыўна ўплываць на яго.

Улічваючы ўдзел В.Шэймана ў перадвыбарчай камандзе А.Лукашэнкі, знайсьці лепшую кандыдатуру на пасаду дзяржсакратара па бясьпецы, чым В.Шэйман, В.Кезу было б цяжка. Да таго ж В.Кез і В.Шэйман даўно знаёмыя. А каб кантраляваць і каардынаваць было лацьвей, у асяродзьдзе В.Шэймана адразу ж пераводзяцца з ваеннай контрвыведкі некалькі супрацоўнікаў, у тым ліку С.Волкаў.

Пры гэтым складваецца ўражаньне, што пра прэзыдэнта КДБ ня дбае. Згадаем перадвыбарчую барацьбу і «стральбу» па машыне А.Лукашэнкі. Ахвяр няма. Эфэкт ёсьць. Хто страляў, невядома да гэтага часу, тым больш, што стралялі на мяжы з Расеяй (а ня з Польшчай).

Нельга абысьці пытаньне аб ролі Ўпраўленьня ваеннай контрвыведкі (УВКВ) на Беларусі.

Калі ў КДБ служаць пераважна выходцы зь Беларусі (гэта дае хоць нейкую надзею, што гэтыя людзі ня будуць працаваць супраць сваёй дзяржавы), то ў структурах УВКВ асноўную колькасьць кіраўнічых пасадаў займаюць людзі з Расеі. Яны не ўсьведамляюць сябе грамадзянамі нашай дзяржавы, не ўспрымаюць гісторыі і мовы. У свой час былы намесьнік начальніка УВКВ М.Рыжак (звольнены ўжо ў Маскве за актыўны ўдзел у жнівеньскім путчы 1991 г.) перацягнуў на Беларусь сваіх аднадумцаў Ф.Канцарава і Г.Негадовіча, а яны — таго самага С.Волкава. Я дастаткова добра ведаю гэтую «магутную тройку» і ўпэўнена магу сьцьвярджаць, што ў кіраўніцтве УВКВ цяпер знаходзяцца людзі нацыянальна і дзяржаўна несьвядомыя. (Дарэчы, адзіны нацыянальна сьвядомы, хоць і не беларус па нацыянальнасьці, генэрал С.Князеў быў без падставаў разжалаваны Лукашэнкам да палкоўніка і звольнены з КДБ).

У свой час я накіраваў на імя В.Кеза аналітычную даведку, дзе абгрунтавана напісаў аб антыдзяржаўнай кадравай палітыцы, якую праводзіць начальнік аддзелу кадраў УВКВ Г.Негадовіч. Але пасьля гэтага давялося звольніцца мне, а Негадовіч пайшоў на павышэньне.

Другі з гэтай «тройкі», Ф.Канцараў, 18 ліпеня 1994 г. павінен быў адбыць па загадзе ФСК Расеі на пасаду намесьніка УВКВ Сібірскай ваеннай акругі. Наколькі мне вядома, такое прызначэньне магчымае толькі пасьля прыняцьця расейскага грамадзянства. Але Канцараву нікуды ехаць не давялося: з прыходам да ўлады Лукашэнкі ён атрымаў генэральскую пасаду ў Менску — начальніка УВКВ КДБ Беларусі. С.Волкаў, як вядома, таксама пайшоў угару.

Узьнікае шэраг пытаньняў. Ці магчымыя былі б такія прызначэньні, калі б не паўплывала Масква на КДБ Беларусі? Каму выгадна, каб на ключавых пасадах у УВКВ заставаліся нацыянальна несьвядомыя і абыякавыя, калі не варожа настроеныя да гэтай дзяржавы людзі?

Скажу шчыра: я — за добрасуседзкія, больш за тое, за сяброўскія адносіны з Расеяй, як і зь іншымі краінамі. Але давайце сябраваць не як жабрак з панам, а як пан з панам. Давайце жыць з сваёй сумленнай працы, а не з рабунку. Давайце будаваць адносіны ў інтарэсах нашых народаў, а не ў інтарэсах прамыслова-фінансавых (і так і просіцца слова «мафіёзных») кланаў і групаў.

Можна шмат чаго растлумачыць зыходзячы з прапанаванай вэрсіі. Але няхай чытачы думаюць ды разважаюць самі і пра турэцкіх «шпіёнаў», і пра польскіх, і пра транзыты, і пра вайсковыя базы на тэрыторыі Беларусі... І хай знаходзяць адказ на галоўнае пытаньне: каму гэта выгадна і чые гэта інтарэсы, хто пакуль пануе над Беларусяй?

Шмат чые інтарэсы перакрыжоўваюцца на Беларусі, але наш галоўны інтарэс — гэта нашая незалежная дзяржава, гэта наш беларускі народ. І *нашыя* спэцслужбы павінны працаваць на *нашыя* інтарэсы. Ніхто нас ня будзе паважаць, у тым ліку і Расея, пакуль мы не пачнем паважаць сябе самі.

**Валеры КОСТКА,**
**дэпутат Менскага абласнога Савету, падпалкоўнік запасу КДБ**

## Ці будзе Беларусь палігонам для шпіёнаў?

**«Не!» — урачыста паабяцаў старшыня КДБ Беларусі Уладзімер Ягораў, калі адказваў на гэтае пытаньне на прэс-канфэрэнцыі, што адбылася ўчора ўвечары. Пры гэтым ён заўважыў, што падразьдзяленьні контрвыведкі дзяржбясьпекі сачылі і будуць надалей сачыць за дзейнасьцямі спэцслужбаў на нашай тэрыторыі.**

Колькі такіх спэцслужбаў працуе ў Беларусі? Дакладнай лічбы Уладзімер Дзям'янавіч журналістам не паведаміў, але зь ягоных словаў можна было зразумець, што без работы наша контрвыведка не сядзіць. Ён прывёў вельмі яскравы доказ — выкрыцьцё турэцкіх шпіёнаў 24 лістапада 1994 г. Для большай пераканаўчасьці журналістам паказалі відэаролік апэратыўна-сьледчай работы, якая вялася ажно паўтара гады.

У «фільме» галоўнымі дзейнымі асобамі былі турэцкі дыплямат Д.Актай і нейкі сябра грамадзка-культурнай мусульманскай арганізацыі з Горадні. Стужка, зьнятая ў горшых традыцыях «шпіёнскага бэстсэлеру», мела на мэце паказаць падступную дзейнасьць прафэсійных турэцкіх разьведчыкаў. Але ў журналістаў яна выклікала шмат пытаньняў. Асабліва зьдзівіла многіх тое, што завербаваны гарадзенскі мусульманін у першую ж гадзіну допыту прызнаўся, што ён сапраўды шпіён. Начальнік аддзелу КДБ Л.Канаплёў, які камэнтаваў відэастужку, нібы апраўдваючыся, заўважыў, што ніякай «сілавой апрацоўкі» затрыманых не было. А тыя мапы міністэрства абароны, якія знайшлі ў агента, былі надзвычай сакрэтныя і ўяўлялі вялікую важнасьць для бясьпекі дзяржавы.

Дарэчы, на прэс-канфэрэнцыі стала вядома, што завербаванага агента турэцкія спэцслужбы рыхтавалі... для вылучэньня ў дэпутаты Вярхоўнага Савету. Трэба разумець, што ад БНФ, бо ён нібыта атрымаў заданьне трапіць у шэрагі гэтага грамадзкага руху.

Такія паведамленьні, акрамя ўсьмешкі, нічога іншага не маглі выклікаць. Бо, як сказала адна журналістка, сёньня і без пратэкцыі замежнай спэцслужбы можна папрысутнічаць на Сойме БНФ а парляманцкі мандат і так нярэдка маюць досыць выпадковыя людзі.

На разьвітаньне шэф беларускай дзяржбясьпекі запэўніў, што сёньня агентурная сетка турэцкіх спэцслужбаў у Беларусі цалкам зьнішчаная.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Фашыстаў пабілі, а ў камуністаў усё прайшло спакойна

**У мінулую нядзелю ў Менску адбыліся дзьве досыць прыкметныя падзеі.**

У Палацы культуры тонкасуконнага камбіната зьбіраліся наладзіць прапагандысцкае шоў двое расейскіх нацыянал-фашыстаў — Эдуард Лімонаў і Аляксандар Дугін. Яны прыехалі да нас, каб падтрымаць дух менскіх груповак такога ж кшталту. Арганізатарам мерапрыемства быў 19-гадовы жыхар Менска Ул.Селіванаў, які рэпрэзэнтуецца намесьнікам старшыні лібэральна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Маскоўскія госьці і іхныя менскія сябрукі паводзілі сябе спачатку досыць упэўнена, раздаючы фашыстоўскія газэткі. Нечакана ў палац уварвалася даволі вялікая група людзей (некальк сотняў), якія прыехалі сюды зь мітынгу БНФ. Найбольш пацярпелі баевікі-ахоўнікі, якія мелі нашыўкі з фашыстоўскімі свастыкамі. Са слоў відавочцаў, іх моцна зьбілі. Калі б не падасьпеў АМОН, гэтым небаракам перапала б яшчэ больш. Людзі крычалі: «Фашысты, прэч зь Беларусі».

Лімонаў і Дугін не пацярпелі. У гэты момант яны знаходзіліся ў грымёрнай, дзе рыхтаваліся да прэс-канфэрэнцыі. Адтуль яны ўцяклі праз вакно. Міліцыя затрымала іх на вуліцы. У гэты ж дзень іх пасадзілі на цягнік і выправадзілі ў «белокаменную». Менскіх арганізатараў мерапрыемства таксама затрымалі і будуць прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасьці за несанкцыяваную акцыю.

У гэты ж самы дзень у Менску праходзіў трэці зьезд Партыі камуністаў Беларусі, дзе, аднак, было ўсё спакойна. Сярод дэлегатаў карэспандэнт СВАБОДЫ пабачыў шмат «старых знаёмых», у прыватнасьці, Г.Данілава, Ул.Замяталіна, П.Казлоўскага.

Дарэчы, яшчэ адна цікавая навіна. У мінулую пятніцу ў Доме ўраду па калідорах прэзыдэнцкай адміністрацыі важна расхаджваў сумнавядомы маскоўскі генэрал-путчыст Альбэрт Макашоў (са значкам дэпутата ВС СССР). Што б гэта значыла?

М.Г.




Дэлегат зьезду ПКБ цікавіцца посьпехамі «аднаўленьня СССР»

Адзін з момантаў бойкі. У гэтай залі расейскія нацыянал-фашысты зьбіраліся праводзіць прэс-канфэрэнцыю



Генадзь Данілаў зь лідарам камуністаў Віктарам Чыкіным.



# Расейскія турмы —гэта пекла

## Так лічаць экспэрты ААН

**Умовы ўтрыманьня зьняволеных у расейскіх турмах прызнаныя жорсткімі і негуманнымі.**

Жорсткія, негуманныя ўмовы зьняволеньня вядуць да дэградацыі асобы, гэта можна шырока назіраць у неўладкаваных і перапоўненых турмах Расеі, знаходжаньне ў якіх раўназначнае катаваньню, гаворыцца ў новым дакладзе ААН, падрыхтаваным па просьбе Расейскай Фэдэрацыі.

У дакладзе адзначаецца, што самыя кепскія ўмовы ў сьледчых ізалятарах, дзе затрыманыя знаходзяцца яшчэ да суда і таму павінны лічыцца невінаватымі, але, тым ня менш, здараецца, што людзі сядзяць там гадамі.

Прафэсар Найджэл Родлі, аўтар дакладу, паведамляе, што ён, хоць папярэдне грунтоўна вывучаў матар'ялы, быў зусім негатовы да той «жахлівай карціны», якую ўбачыў у Бутырскай турме ў Маскве, калі адчыніў дзьверы камэры, дзе знаходзіліся 83 зьняволеныя.

«У гэтых агульных камэрах можа быць толькі адна брудная ракавіна і адзін кран (зь якога не заўсёды ідзе вада)», — піша Родлі ў дакладзе. У камэрах няма ні сонечнага сьвятла, ні сьвежага паветра; штучнае асьвятленьне вельмі слабое і не заўсёды функцыянуе.

У найменш уладкаваных ізалятарах, да якіх адносяцца маскоўскія турмы «Бутырская» і «Матроская цішыня №1», настолькі цесна, што мейсцаў, каб ляжаць, сядзець або нават стаяць, хапае не на ўсіх. У многіх зьняволеных ад доўгага стаяньня пухнуць ногі», — адзначае Родлі.

«Ежа, з прычыны беднасьці папраўчых установаў, уяўляе прымітыўную поліўку з вады і тлушчу», — гаворыцца ў дакладзе.

Праблема настолькі вострая, што патрабуе «радыкальнага» рашэньня, заявіў Родлі на прэс-канфэрэнцыі 1 сьнежня.

Ён заклікаў расейскі ўрад тэрмінова вызваліць 71 тысячу чалавек, якія затрыманыя і чакаюць суда. Менавіта столькі «лішніх» знаходзіцца ў ізалятарах у параўнаньні з колькасьцю арыштантаў, на якую яны разьлічаныя.

«Гэта неабходна ажыцьцявіць, і калі ўзьнікне такая патрэба, то прэзыдэнцкім указам, — піша Родлі. — Магчыма, варта вызваліць да суда ўсіх, хто ўпершыню зьдзейсьніў злачынства, не зьвязанае з гвалтам над асобай».

Зьбіваньне, запалохваньне і іншыя формы жорсткіх адносінаў да людзей атрымалі ў Расеі шырокі размах. Па некаторых зьвестках, міліцыя часта беспакарана парушае закон.

У дакладзе наводзіцца прыклад. Прадстаўнік афіцыйных расейскіх структураў заявіў у міліцыю аб спробе вымагальніцтва. На ягоных вачох у аддзяленьне міліцыі даставілі чалавека, якога міліцыянт — нягледзячы на пратэсты заяўцы — пагражаў прыстрэліць, калі той не прызнаецца ў злачынстве. «Той факт, што міліцыянт спакойна рабіў гэта ў прысутнасьці сьведкі, гаворыць пра ягоную ўпэўненасьць у поўнай беспакаранасьці», — адзначаецца ў дакладзе.

Міжнароднае вызначэньне паняцьця «катаваньне» падкрэсьлівае, што такія акцыі ўчыняюцца з пэўным намерам — напрыклад, для атрыманьня прызнаньня або інфармацыі.

«У мяне не было магчымасьці атрымаць пацьверджаньні менавіта такой матывацыі», — кажа Родлі, але ў дакладзе гаворыцца пра «неадназразовыя паведамленьні з надзейных крыніцаў», што схільных да гвалтоўных дзеяньняў зьняволеных спэцыяльна зьмяшчаюць у так званыя камэры «давленія», каб запалохаць іншых зьняволеных і стварыць атмасфэру страху рэпрэсіяў.

На думку Родлі, «у той ступені, у якой падазраваныя падвяргаюцца зьняволеньню ў інтарэсах сьледзтва, каб зламаць іхную волю і дамагчыся ад іх прызнаньня ці інфармацыі, — можна цалкам аргумэнтавана гаварыць, што зьняволеных катуюць».

Дакладчык ня толькі заклікаў разгрузіць турмы, але і распрацаваў шэраг канкрэтных рэкамэндацыяў:

— Больш поўна выкарыстоўваць прадугледжаную законам магчымасьць вызваленьня пад заклад — асабліва асобаў, якія ўпершыню ўчынілі злачынства, не зьвязанае з гвалтам.

— Пры неабходнасьці зьмяніць законы, якія перашкаджаюць вызваленьню пад заклад.

— Калі актыўнае вызваленьне пад заклад ня вырашыць праблемы перапоўненасьці турмаў, належыць тэрмінова пабудаваць новыя.

— Перагледзець дзейнасьць існых папраўчых структураў, забясьпечыўшы рэалізацыю «прынцыпаў гуманнасьці і павагі да чалавечай годнасьці».

Уэнды ЛЮБЕТКІН

## У Дом ураду патрабуецца псыхіятар

**Прэзыдэнцкая адміністрацыя вельмі ўважлівая і грунтоўна разьбіраецца са скаргамі грамадзянаў.**

У гэтым пераканаліся жыхары менскага мікрараёну «Паўднёвы захад-5», якія напісалі калектыўную скаргу (100 подпісаў) у адміністрацыю Лукашэнкі. Яны ўжо пяты год дамагаюцца, каб на прыпынку «вул.Ясеніна» спыняліся аўтобусы маршрутаў 107 і 30. Людзі, напэўна, спадзяваліся, што Лукашэнка неадкладна падпіша ўказ — і аўтобусы пачнуць спыняцца. Але гэтага не адбылося, і расчараваныя грамадзяне праз два месяцы пачалі тэлефанаваць у адміністрацыю. Спачатку іх супакойвалі: «Жалоба изучается в министерстве транспорта».

Аднак людзям ня цярпіцца, і праз два тыдні яны зноў тэлефануюць у Дом ураду. Гэтым разам нейкі Андрэй Генрыхавіч (юрыст) ім проста патлумачыў: «Если у вас с головой все в порядке, вы должны понимать, что этот вопрос сразу не решается». Будзем спадзявацца, што ў прэзыдэнцкіх чыноўнікаў з галавой усё ў парадку.

**Іван СІДАР**

## Казакі падарылі Філарэту ордэн

**14 сьнежня ў штаб-кватэры Беларускага экзархату было шумна. Мітрапаліт Філарэт сьвяткаваў свае імяніны.**

Павіншаваць яго прыехалі ўсе беларускія праваслаўныя архірэі, за выключэньнем архіяпіскапа Магілёўскага Максіма, япіскапа Гомельскага Арыстарха і япіскапа Полацкага Глеба. Затое япіскап Віцебскі Дзімітрый прывёз з сабою трох казакаў. Казацтва Беларусі, якое называе сябе неад'емнай часткаю казацтва Расеі, Крыма і Прыднястроўя, прадставіла мітрапаліта Філарэта да сваёй найвышэйшай узнагароды — ордэна «За любоў да Айчыны 1-й ступені». «Любоў да Айчыны» мітрапаліта Філарэта, на думку казакоў, заключаецца ў яго вялікіх намаганьнях па аб'яднаньні і ўмацаваньні славянскай сям'і. Атаман расейскіх казакаў палкоўнік Філін спэцыяльна прыехаў на Філарэтаў дзень анёла, каб уручыць ордэн. Прымаючы яго, уладыка расчуліўся і нават расплакаўся.

Казакі маюць даўнія кантакты з архірэямі праваслаўнай царквы на Беларусі. Асабліва часта да іх зьвяртаюцца япіскап Віцебскі Дзімітрый і япіскап Полацкі Глеб. Казакі суправаджаюць гуманітарныя грузы, якія прыходзяць на Беларусь па лініі царквы, а таксама ахоўваюць праваслаўныя цэрквы падчас вялікіх набажэнстваў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Калядныя падарункі зь Нямеччыны

**У перадкалядныя дні ў Полацак прыбылі 9 грузавікоў зь нямецкага горада-пабраціма Фрыдрыхсгафэна, якія даставілі гуманітарны груз.**

Мэдыкамэнты і мэдабсталяваньне на 100 тыс. дойчэмарак, адмысловыя скафандры для пажарнікаў, алей, індывідуальныя пасылкі ды інш. Частка гэтага грузу — чарговы падарунак палачанам нямецкага бізнэсмэна сп.Фрэнкеля. Кожны жыхар горада атрымае па 2 літры алею, а ўдзельнікі апошняй вайны — па 3 літры. Каталіцкая парафія Фрыдрыхсгафэна ахвяравала палачанам звон для касьцёлу, які абсталёўваецца ў будынку былога кінатэатру.

**Васіль КРОКВА**

## Ад піва перайшлі да гарэлкі

**Скончыўся першы этап «нацыяналізацыі» полацкага піва.**

Бровар ужо варыць тры гатункі тутэйшага бурштынавага напою — «Скарынаўскае», «Полацкае» і «Полацкае аматарскае».

Да гэтага працэсу нядаўна далучыўся і Полацкі вінаробны завод. Вырашана замест гарэлкі «Рускай» выраблясць «Полацкую асобую». Яе зьбіраюцца таксама экспартаваць. Ужо распрацаваны дызайн пляшак і этыкетак. Атрымалася ня горш за фінскую або нямецкую.

**Тамаш ГУРБА**

## У дзіцячым садку будуць лячыць хворых

**У Кобрыні прынятае рашэньне перадаць пад скурвэнэралягічны дыспансэр, які летась згарэў і на працягу года практычна ня меў прытулку, памяшканьне аднаго з цэнтральных дзіцячых садкоў горада.**

Разьмешчаны ён на ціхай пешаходнай вуліцы, побач — парк культуры і адпачынку. Дзяцей прапанавана перавесьці ў іншы садок, аддалены і практычна не звязаны ніякімі аўтобуснымі маршрутамі зь іншымі мікрараёнамі горада. Бацькі незадаволеныя такім рашэньнем уладаў.

**Мірон ГАМОН**

## Храм, ды ня той

**Да кобрыньскіх уладаў зьвярнулася група грамадзянаў. Яны патрабуюць вынесьці на разгляд чарговай сэсіі гарсавету пытаньне аб адмене ранейшага рашэньня гарвыканкаму, якім прадугледжваецца выдзяленьне пляца пад будаўніцтва малельнага дому эвангельскіх хрысьціянаў баптыстаў.**

Заяўцы прапануюць на гэтым мейсцы (дарэчы, тут у гады вайны расстралялі кобрыньскіх габрэяў і ваеннапалонных) узьвесьці праваслаўную царкву... «у гонар 50-годзьдзя Перамогі». Зварот мае яўна палітычную афарбоўку: у ім сьцьвярджаецца, што асноўнай рэлігіяй на славянскіх абшарах ёсьць выключна праваслаўе, што прысьпеў час увесьці Закон Божы ў школах, а праваслаўную службу — у войску і што наагул усё, «навязанное с Запада, — нам чуждо». Падпісалі гэтую паперку, відавочна ініцыяваную філіяй СС «Белая Русь», прадстаўнікі выразна «левага» Клюбу выбаршчыкаў, некаторыя дэпутаты гарсавету, клеркі ўладных структураў, якія апошнім часам заўзята моляцца ў царкве, а таксама адзін праваслаўны сьвятар.

Між тым, вернікі ЭХБ упэўненыя: няма ніякіх падставаў адмяняць ужо вынесенае рашэньне. Але ж, дзеля большай гарантыі, пачалі збор подпісаў у падтрымку сваёй будоўлі.

**Язэп ХВОСТКА**

## У прыбіральню — па графіку адміністрацыі

**На Кобрыньскім масласырзаводзе распачалі чарговую барацьбу зь «несунамі».**

Як толькі сыраробы заступаюць на зьмену, дзьверы цэха адразу замыкаюць. Выйсьці па патрэбе рабочыя могуць толькі ў адпаведнасьці з графікам, складзеным адміністрацыяй прадпрыемства. Дзьверы вытворчага памяшканьня адчыняюцца праз кожную гадзіну на некалькі хвілін.

**Мірон ГАМОН**



## Расейскі апэтыт

**Нядаўна берасьцейскія міліцыянты на аўтавакзале абласнога цэнтру арыштавалі бандыцкую групу.**

Трое жыхароў Берасьця, пагражаючы расправай, вымагалі ў мясцовага прадпрымальніка 35 тыс. амэрыканскіх даляраў. Сярод іх быў і былы прапаршчык, які спэцыялізаваўся на вырабе выбуховых прыстасаваньняў. Адно зь іх — як папярэджаньне — было ўзарванае пад балконам кватэры небаракі-камэрсанта.

Прыкладна гэтымі ж днямі ў Берасьці былі арыштаваныя трое маскоўскіх рэкецiраў, якія патрабавалі 96 тыс. даляраў ад дырэктара аднаго прыватнага прадпрыемства, пагражаючы расправаю над ягонай сям'ёй. Стаўкі расейскага рэкету, як бачым, намнога вышэйшыя.

**Андрэй ЯСЕНЬ**

## Сьмерць ад напругі

**Днямі брыгада пінскіх электрыкаў стала сьведкам жахлівага відовішча ў вёсцы Дамашычы.**

Калі рамонтнікі прыехалі на мейсца аварыі электраліні, то побач з трансфарматарным шчытом знайшлі абгарэлы труп юнака — навучэнца аднаго пінскага ПТВ. Сьледчыя не выключаюць, што хлопец трапіў пад высокую напругу ў пошуках каляровых мэталаў.

**І.Б.**

## Міліцыя нам даверае

**У дзяжурнай частцы Гарадзенскай абласной управы ўнутраных справаў пачаў дзейнічаць «тэлефон даверу».**

Па ім ананімна або назваўшыся можна паведаміць любую інфармацыю, якая датычыць здарэньняў і злачынстваў.

Дагэтуль падобны, але ўнутраны тэлефон існаваў толькі ў пад'езьдзе управы КДБ.

**П.А.**

## Папулярнасьць Чэйза не зьніжаецца

У Ваўкавыску злодзей, які залез у адну кватэру праз фортку, скраў збор твораў Дж.Чэйза.

**П.А.**

### Нядзеля 25 сьнежня

**Беларускае тэлебачаньне**
8.00 Аэробіка для ўсіх
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.40 Лекцыі здароўя
9.05 Добрыя весткі
9.15 Справы вайсковыя
10.00 Міжнародны турнір па акрабатыцы
10.30 Пра шахматы і шахматыстаў
10.55 «Барбі-лято»
11.25 «АВС-клюб» у Амэрыцы
11.45 Сьвяточныя сустрэчы ў студыі «Існасьць»
12.45 Сустрэча з В.Раінчыкам.
13.35 Адкрыты эфір. Міністар замежных справаў Беларусі У.Сянько
15.15 Сьвяточныя сустрэчы ў студыі «Існасьць»
15.45 «Радавод». Сьвята «Каляды»
16.25 Анталёгія гумару
17.00 «Каляды пана Кругера»
17.25 Тэлекрама
17.35 Плянэта людзей
18.05 «Залатая ліра»
19.29 Праспэкт
20.00 Панарама
20.40 Калыханка
21.00 Пяць хвілін на жарты
21.10 Вячэрні роздум
21.20 «Калыханка», д/ф
22.00 Пад купалам Сусьвету
22.20 «Містэр Норт», м/ф
23.55 Валейбол. СКА (Менск) — «Спадарожнік» (Віцебск)

**Канал «Астанкіна»**
7.15 Алімпійская раніца
7.50 Спортлято
8.00 Марафон-15
8.30 Раным-рана
9.00 Палігон
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Крышталёвы чаравічак
10.45 Экстра-НЛА
11.15 Пераадоленьне
12.05 «Ня вер, ня бойся, не прасі...» Фільм 2-гі, с. 3
12.55 «Шпаргалка»
13.00 «Падводная адысэя каманды Кусто»
13.50, 17.00, 22.50, 23.50 Навіны
14.00 «Стратэгія Перамогі»
14.55 Клюб падарожнікаў
15.45 Весьнікі
16.50 Амэрыка з М. Таратутам
16.45 Тэлелёцыя
17.10 Жывое дрэва рамёстваў
17.15 «Баскетбольная ліхаманка», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды»
18.10 Уся Расея
18.40 Надвор'е
18.50 «Неўтаймоўны», м/ф (Францыя)
21.00 Нядзеля
21.50 Спартовы ўік-энд
22.05 Музыка ў эфіры
23.00 Сёньня

**Канал «Расея»**
7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 «Каляды», д/ф
7.40 Студыя «Рост»
8.10 Пілігрым
8.55 Добрай раніцы, Эўропа
9.25 Людзі
9.40 Аты-баты...
10.10 Рускае лято
10.55 «Аднойчы ўночы», м/ф
12.40 Шэсьць сотак
13.20 «Ня высечы...»
13.35 «Эдэра»
14.30 Лепшыя гульні НБА
15.30 З.Сатківала прадстаўляе...
16.00 У сьвеце жывёл
17.00 Чароўны сьвет Дыснэя
18.00 Каробка перадач
18.15 У Ксюшы
18.45 Сьвята штодня
19.25 «Вялікая прагулка», м/ф (Францыя)
21.45 Кліп-антракт
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаміг
22.30 Спартовая карусэль
22.35 Праграма «А»
23.35 Зоркі гавораць
23.40 «Люмі», м/ф

**Санкт-Пецярбург**
6.00 «Гаючае слова»
6.30 Добрай раніцы
9.30 Чароўная лінія
9.45 «Паглядзім»
10.00 Экспрэс-кіно
10.15 «Добры лес», мульт.
10.30 «Рандэву». І.Нікалаеў і Н.Каралёва
11.00 Нядзельны лябірынт
12.35 «Забароненыя дакуманты», д/ф (Францыя)
13.45 «Клясыка-5»
15.25 «Тваіх агароджаў карункі чыгунныя», д/ф
16.35 «Парад парадаў»
16.35 Залаты ключ
16.50 Маленькія зорачкі
17.20 Мультфільм
18.10 С. Мрожак. «Чарадзейная ноч»
18.55 Тэатральная правінцыя
19.30 Інфарм-TV
19.50 «Млечны шлях», м/ф (Турцыя)
21.40 Ваш стыль
21.50 «Паглядзім»
22.05 Адамаў яблык
23.05 Сустрэча з І.Панароўскай

**НТВ**
17.00 Мультфільм
18.30 Плянэта модаў
19.00 Лепшыя зь лепшых
20.00 Вынікі
21.10 Маст. фільм «О шчасьліўчык!» (Вялікабрытанія)
0.10 Рэтра-TV

**8 канал**
15.00 Сёньня з Мэрлен Хікі
15.30 Марэна Кляра (паўтор)
18.30 Рэпартаж
18.40 Спорт-сакрэт
19.00 Мультфільм
19.15 Скрыжаваньне
19.30 Маст. фільм «Крывавы рахунак» (Індыя), 1 сэрыя
20.40 Бон ваяж
21.00 Студыя «БМ»: «Дайджэст»
21.20 «Крывавы рахунак», 2 сэрыя



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 19.12.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1791 © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 50 000
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12